*Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка*

**№32 снежань 2013**

# ПРЭЗУМПЦЫЯ

*Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь*

## З Калядамі і Новым годам !!!




***Гарадзенская філія Праваабарончага Цэнтру "Вясна" віншуе ўсіх чытачоў "Прэзумпцыі" з Калядамі і Новым годам!!!***

**Усім шчасьця, радасьці і поспехаў у новым 2014 годзе!!!**

***І не забудзьцесь павіншаваць са святамі палітвязняў.***

# Каштарыс па-гарадзенску: правядзенне пікету каштуе больш 23 мільёнаў рублёў



4 снежня ў судзе Ленінскага раёна Гродна прайшоў разгляд скаргі гродзенскіх праваабаронцаў Віктара Сазонава, Уладзіміра Хільмановіча і Рамана Юргеля на рашэнне гарвыканкама, якім не было дазволена правядзенне інфармацыйнага пікету 10 кастрычніка ў Сусветны дзень супраць смяротнага пакарання. Грамадзянскую справу па скарзе разглядала суддзя Вольга Шуманская ў прысутнасці пракурора Сеўрынай. Бок адказчыка прадстаўляў галоўны спецыяліст юрыдычнага аддзелу гарвыканкаму Сяргей Табулевіч. Нягледзячы на ўсе аргументы заяўнікаў, суддзя прадказальна ўзяла бок выканаўчай улады і не задаволіла скаргу праваабаронцаў.

Нагадаем, што гродзенскі гарвыканкам выявіў надзвычайную фантазію, заявіўшы ў сваім афіцыйным адказе ад 4 кастрычніка, што заяўнікі былі абавязаны паведаміць пісьмова, ці будзе масавае мерапрыемства праводзіцца з выкарыстаннем піратэхнічных вырабаў і адкрытага агню. Чыноўнікі таксама палічылі, што заяўнікі не змогуць “в должной мере соблюсти необходимые требования действующего законодательства Республики Беларусь по обеспечению безопасных условий проведения заявленного массового мероприятия и наведения порядка по его окончании”. На судовым працэсе стала зразумела, на чым грунтавалася такая выснова “вертыкальшчыкаў”. На ім было прадстаўлена пісьмовае пярэчанне на скаргу з боку адказнікаў. Паводле запытаў выканкамаўцаў у розныя службы (аддзел унутраных спраў Ленінскага раёну, Гарадзенскую гарадскую станцыю хуткай медычнай дапамогі, Гарадзенскую гарадскую жыллёва-камунальную службу) гарвыканкам вылічыў, што за абслугоўванне масавага мерапрыемства заяўнікі мусілі заплаціць ажно 23 мільёны 324 тысячы 200 беларускіх рублёў (!). Аднак, пра гэтыя разлікі і абсурдную суму паслугаў праваабаронцам да суда нічога не паведамілі.

На судовым працэсе таксама прагучала, што для аховы парадку падчас пікету міліцыі Ленінскага раёну патрэбна задзейнічаць ажно 31-го (!) ахоўніка правапарадку, прычым на 5 гадзін. Хоць час заяўленага пікету складаў усяго 2 гадзіны, а патэнцыйная колькасць удзельнікаў паводле заявы складала да 10 чалавек.

# У Дзень правоў чалавека Алесю Бяляцкаму будзе ўручана ганаровае грамадзянства Парыжа

10 снежня мэр Парыжа Бертран Дэланоэ перадасць сімвалічную ўзнагароду Адаму Бяляцкаму, сыну палітзняволенага віцэ-прэзідэнта Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека і кіраўніка ПЦ "Вясна". Уручэнне адбудзецца на ўрачыстым абедзе ў гонар FIDH у мэрыі Парыжа.

Тытул Ганаровага грамадзяніна горада Парыжа Алесю Бяляцкаму быў прысвоены ў кастрычніку 2012 года па прапанове мэра Парыжа, а таксама па ініцыятыве Гарадскога савета 11-й акругі сталіцы Францыі. У цяперашні час у спадара Дэланоэ сканчаецца мандат, і ён разумее, што яго жаданне ўручыць ганаровае грамадзянства асабіста Алесю невыканальнае. Таму ён прыняў рашэнне з нагоды 10 снежня ўручыць гэтую ўзнагароду сыну вязня сумлення.

Сведкамі ўзнагароджання Алеся Бяляцкага стануць запрошаныя на ўрачыстасць некалькі сотняў гасцей, сярод якіх будуць журналісты і людзі мастацтва, прадстаўнікі Французскай нацыянальнай Камісіі па правах чалавека.

Сп. Бертран Дэланоэ асабіста знаёмы з Алесем Бяляцкім і ўважліва сочыць за яго лёсам. З моманту арышту праваабаронцы мэрыя Парыжа выказвае сваю салідарнасць з Алесем Бяляцкім, заклікаючы ўлады Беларусі да яго безумоўнага вызвалення, і распачала шэраг сімвалічных жэстаў, далучыўшыся да кампаніі ў яго падтрымку.

Нагадаем, у траўні 2012 года партрэт Алеся Бяляцкага быў усталяваны перад мэрыяй 11-й акругі Парыжа. Таксама кіраўнік горада паставіў свой ??подпіс пад вылучэннем беларускага праваабаронцы на Нобелеўскую прэмію міру. У верасні гэтага года, у гадавіну яго арышту, сп. Дэланоэ накіраваў Алесю ў бабруйскую калонію ліст з запэўненнем у сваёй падтрымцы і глыбокай павазе.




«Тытул ганаровага грамадзяніна Парыжа, які дэпутаты нашага горада прысвоілі Вам па маёй просьбе ў 2012 годзе, сімвалізуе салідарнасць з Вамі і Парыжа, і парыжан. Іншая праява гэтай салідарнасці - Ваш партрэт, які пастаянна вісіць на плошчы перад будынкам мэрыі 11-й акругі Парыжа.

Паверце, што, сумесна з FIDH, чыім віцэ-прэзідэнтам Вы з'яўляецеся, і з усімі праваабаронцамі, мы працягваем дамагацца Вашага хутчэйшага вызвалення», - гаворыцца ў гэтым лісце.

У знак падзякі FIDH перадасць мэру Парыжа сп. Бертрану Дэланоэ публіцыстычны водгук Алеся Бяляцкага на апошні, што папярэднічаў яго арышту, візіт у Парыж, на паседжанне Міжнароднага бюро FIDH, якое праходзіла ў будынку гарадской мэрыі. Гэтыя ўспаміны праваабаронца напісаў ужо ў зняволенні.

# Паўзучы год

***2013 год, які паводле усходняга гараскопу быў годам змяі, праслізнуў праз лету гісторыі як паўзучы гад, не пакінуўшы беларусам на гэтым часавым адрэзку асаблівых радасцяў, надзей і дасягненняў. Улада надалей ішла сваім шляхам знішчэння нацыянальнага, даводзячы сваю палітыку, законы і практыку да абсурду. Апазіцыя чарговы раз дзялілася, але толькі паміж сабой. Народ па-ранейшаму душыўся ў чэргах супермаркетаў, на баразне, ля консульстваў і на мяжы. Гэтыя тры, розныя па велічыні, часткі грамадства існавалі пераважна ў паралельных светах. Калі яны перасякаліся, прыемнага было мала, практычна карыснага яшчэ менш, а ў цэлым нічога не змянілася.***

Палітычныя дэмакратычныя партыі і групоўкі, замест умацавання ўжо існаваўшай кааліцыі, чарговы раз зазналі новы перадзел і пераарыентацыю. Практычна ў апазіцыі акрэсліліся два блокі – умоўна “правы” і ўмоўна “леваліберальны”, рэшта невялікіх палітычных плыняў пакуль на ўзбочыне. Адны прапануюць нейкі “народны рэферэндум”, іншыя зацыклены на “справядлівых выбарах”, трэція фактычна маўчаць, ні то ў глыбакадумнасці, ні то ў разгубленасці, і нічога не прапаноўваюць. На маю думку, палітычная апазіцыя мусіла з’яднацца па некалькіх найважнейшых пунктах, “кітах”, на якіх можна было б грунтаваць сваю палітыку, аднак гэтага не здарылася. Першая пазіцыя – гэта палітвязні. Тут нібыта адзінства ў апазіцыі ёсць, але яно дагэтуль не афармлена нават у выглядзе жорсткіх агульных прынцыпаў. Таму і не звяртае ўвагі ўлада на асобныя, нават гучныя, але толькі дэкляратыўныя заявы, таму і з’яўляюцца новыя палітычныя вязні. Іншы ключавы момант – гэта пабудова ў Беларусі расейскай атамнай станцыі. Гэта сама небяспечны геапалітычны і вайсковы праект у нашай краіне, але для апазіцыі ён нібы не існуе зусім. Адзінкавыя грамадскія актывісты гераічна змагаюцца супраць гэтай смяротна небяспечнай АЭС. Грамадская актыўнасць, дарэчы, надае пэўныя падставы для аптымізму. Неабыякавыя людзі гуртуюцца ў суполкі і змагаюцца за сваё – за правы на памяць, на сваю гісторыю і культуру, бароняць ад знішчэння народны мемарыял Курапаты…

Найпрасцей аналізаваць і зразумець дзеянні ўлады. Вось тут сапраўды няма ніякіх загадак, нечаканасцяў ці сенсацый. Усё паслядоўна, гладка і прычасана. Як на могілках, дзе нібыта парадак і дагледжанасць, але выхаду для нябожчыкаў няма. Гаспадарка спаўзала і далей паўзе ў такі глыбокі крызіс, з якога выйсця нават не праглядваецца. Эканоміка Беларусі нібы ачмурэлы наркаман, які жыць не можа без чарговай ін’екцыі і таму ліхаманкава і адчайна яе шукае ў выглядзе новых “халяўных” крэдытаў. Іначай і быць не можа, калі няма сапраўднай прыватнай уласнасці, няма свабоды і развіцця дробнага і сярэдняга прадпрымальніцтва, няма зразумелых правілаў для вядзення бізнесу, няма празрыстых інвестыцый, няма пільнавання нацыянальных інтарэсаў. Што датычыць дзяржаўнай палітыкі, то яна скрозь заснаваная на фальшывай ідэалогіі, у яе ніхто не верыць – ні з высокіх дзяржаўных службоўцаў, ні з дробных чыноўнікаў. Наменклатура ўсё больш пераўтвараецца ў класічную каланіяльную адміністрацыю з адзінай пазіцыяй ці позай “Чево изволите?”. Гэтыя людзі нават не задумваюцца, што заўтра ўсе мы можам прачнуцца ўжо не ў суверэннай Беларусі, а ў Расейскай федэрацыі. Яны працуюць, кіруючыся толькі страхам і надзённай меркантыльнасцю, далёка схаваўшы ў незгаральную шафу свае сумленне і гонар.




Застаецца народ. Але што такое гэты “народ” стагоддзямі не могуць вызначыць нават лепшыя мысляры чалавецтва. Беларускі народ застаецца з аднаго боку глыбока русіфікаваным, з іншага – ён мысліць пераважна катэгорыямі спажывання і выжывання. Галоўная бяда ў тым, што бальшыня людзей не разумее каштоўнасці сваёй мовы, культуры, традыцый. Вось менавіта гэта адрознівае ў горшы бок беларусаў ад тых жа ўкраінцаў. Таму і падняліся ўкраінцы на змаганне за праўду большымі сіламі, чым мы.

Дык як акрэсліць агульны стан беларускага грамадства? Застой? Калапс? Класічная абыякавасць і млявасць да жыцця? Летаргія? Шчыра прызнаюся – не ведаю. Можа наступны год прадэманструе нешта больш выразна…

***Уладзімір Хільмановіч***

# Хроніка правапарушэнняў

### Гарадзеншчына, красавік

## Адміністрацыйныя справы супраць актывістаў грамадзянскай супольнасьці;

**30 снежня** ў Гародні суддзя Кастрычніцкага раёну Зінаіда Барцэвіч пакарала штрафам у 22 базавыя велічыні Аляксандра Іванова за размяшчэнне інфармацыі ў інтэрнэце. 26 снежня Аляксандар Іваноў размясціў інфармацыю ў інтэрнэце на "Гродненском форуме", у якой напісаў, што 27-га снежня на Савецкай плошчы а 18-й гадзіне збіраюцца аўтамабілісты, неабыякавыя да ўвядзення новага падатку на аўтамашыны. Іванова выклікалі ў міліцыю, на яго быў складзены пратакол нібыта пра адміністрацыйнае правапарушэнне – яго абвінавацілі ў публічным закліку і арганізацыі несанкцыянаванага мерапрыемства.

## Іншыя формы пераследу, дыскрымінацыі і парушэння заканадаўства з боку ўладаў

3 снежня гарадзенская абласная пракуратура зрабіла афіцыйнае папярэджанне незалежнаму журналісту Алесю Дзянісаву. Размову з Дзянісавым вёў намеснік начальніка аддзела пракуратуры Гарадзенскай вобласці Валеры Павядайка. Папярэджанне тычылася працы журналіста падчас працы ў Дзень памяці паўстанцаў 1863 года ў Свіслачы, які прайшоў у канцы кастрычніка.

4 снежня Гарадзенская абласная пракуратура абвесціла афіцыйнае папярэджанне сябру ГА «БАЖ» Алесю Кіркевічу.

4 снежня грамадскі актывіст з Астравеччыны Мікалай Уласевіч атрымаў адмову ў правядзенні пікету. Заяўку Уласевіч падаваў на 7 снежня, а мэтай пікету пад назвай "Карупцыянераў да адказнасці" было прыцягненне ўвагі жыхароў, а таксама праваахоўных органаў да службовых злоўжыванняў і карупцыйных праяваў сярод высокапастаўленых асобаў раёну.

4 снежня Гарадзенскі гарвыканкам чарговы раз адмовіў грамадскім праваабаронцам Віктару Сазонаву, Уладзіміру Хільмановічу і Раману Юргелю ў правядзенні інфармацыйнага пікету. Праваабаронцы падавалі заяўку на правядзенне пікету, прымеркаванага да Сусветнага дня Дэкларацыі аб правах чалавека, у Каложскім парку 10 снежня.



17 снежня Гарадзенская абласная пракуратура абвесціла афіцыйнае папярэджанне сябру ГА «БАЖ» Андрэю Мялешку за асвятленне акцыі памяці ў Сьвіслачы

Грамадскі актывіст з мястэчка Варняны Мікалай Уласевіч атрымаў адмову на правядзенне інфармацыйнага пікету ў Астраўцы з мэтай падтрымкі ўкраінскага народу, заяўка была пададзена на 21 снежня.

Слонімскі лекар Іван Шэга, якому не працягнулі кантракт у паліклініцы нібыта з прычыны пенсійнага веку, адчыніў у Слоніме грамадзкую прыёмную, дзе бясплатна прымаў наведнікаў. Аднак у сьнежні гаспадар будынку, відавочна пад ціскам спецслужбаў, вырашыў скасаваць дамову арэнды памяшканьня.

Крыху пазьней адміністрацыя будынка рынку "Касаўскі" ў Слоніме, дзе калектыў "Газеты Слонімскай" арэндаваў некалькі гадоў памяшканне, папярэдзіла рэдактара газеты Віктара Валадашчука, каб ён вызваліў памяшканне да 1 студзеня 2014 года

27 снежня ў час акцыі "Стоп-падатак 2" у Гародні быў затрыманы грамадскі актывіст Мікалай Верамеенка. Супрацоўнікі праваахоўных органаў спынілі яго і патлумачылі, што падставай для затрымання стала тое, што машына, на якой ехаў, нібыта знаходзіцца ў вышуку.

# Майдан ці Магадан

***Украінскія падзеі, якія набываюць ужо сусветны розгалас, надзвычай кранаюць і многіх жыхароў Беларусі. У тым, што зыход новага Майдану наўпрост паўплывае на лёс Беларусі, ніхто не сумняваецца – ні аналітыкі з імёнамі, ні простыя карыстальнікі сацыяльных сетак. На маю думку, чым бы не скончылася супрацьстаянне на Украіне, бліжэйшым часам гэта адаб'ецца адмоўна на Беларусі.***




Калі вышэйшая ўлада нашых паўднёвых суседзяў наважыцца на сілавы разгон пратэстоўцаў і рэпрэсіі супраць апазіцыйных сілаў, у Беларусі яшчэ больш узмоцніцца пераслед дэмакратычных актывістаў. Паводле прынцыпу "у страху вочы па яблыку". Не сумнявайцеся, улада зробіць усё, каб выключыць у Беларусі ў 2015-ым нават падабенства Плошчы-2010-га году. Калі ж украінскі народ даможацца зараз адстаўкі Януковіча, альбо прымусіць яго ўсё ж падпісаць дэклярацыю пра збліжэнне з Еўразвязам, гэты ж Еўразвяз пастараецца загладзіць сваю "віну" перад Масквой цаной Беларусі. Тым больш, ураджанне такое, што яны – чыноўнікі Еўразвязу, якія праўдападобна ня маюць выразнай геапалітычнай дактрыны, разумення гістарычнай перспектывы, а кіруюцца выключна штодзённымі эканамічнымі гешэфтамі, самы не ведаюць, што рабіць з Украінай і іншымі постсавецкімі краінамі. З тымі еўрапейскімі паводле гісторыі дзяржавамі, якія ніяк не могуць вырвацца з "братніх" душыцельных нафтагазавых абдымкаў Крамля. Якія ніяк не могуць вырвацца з азіяцкай залежнасці ад таталітарнага мінулага.

Захад мог дапамагчы вярнуцца Украіне і Беларусі ў еўрапейскую сям'ю народаў яшчэ ў дзевяностых гадах, але нічога не зрабіў для гэтага. Захад заплюшчыў вочы на антыканстытуцыйны пераварот у Беларусі ў 1995-ым, а калі ў 1996-ым годзе прэзідэнту быў падрыхтаваны імпічмент, моўчкі праглынуў наўпроставае ўмяшанне Расеі ў суверэнныя справы Беларусі. І Вялікабрытанія і ЗША, як міжнародныя юрыдычныя гаранты беларускай незалежнасці, не зрабілі ні кроку. Тым больш Еўразвяз, які ўжо даўно разглядае Беларусь як выключна тэрыторыю расейскага ўплыву.

Пасля нікчэмнага саміту Усходняга партнёрства ў Вільні неўзабаве па інфармацыйных хвалях прыйшла навіна пад агульным рэфрэнам і нават адпаведным загалоўкам "Ангела Меркель думае пра Украіну і Беларусь". Памятаеце, некалі Ленін думаў пра Беларусь. А цяпер сама першая фрау першай дзяржавы ў Еўразвязе думае…

Людзі, якія выходзяць сёння на кіеўскі майдан, кіруюцца не толькі патрыятызмам і памкненнем да справядлівасці, але і звычайным чалавечым інстынктам выжывання. Бо калі сёння ты не выйдзеш на майдан, заўтра збярэш чамадан і паедзеш у Магадан. Хутчэй усяго і чамадана не дадуць сабраць. Новы рэжым колішняга шапкакрада развіваўся хутка і імклівa, але разгарнуўся яшчэ не да такой ступені, каб знішчыць цэлую дзяржаву, зрабіць яе скрозь таталітарнай і кіруемай паводле аднаго тэлефанавання. У стане ўкраінскай вярхоўнай улады зараз разгубленасць, адбываецца калі не раскол, то напэўна разлад.

Калі пішуцца гэтыя радкі зусім непрадказальна, чым скончыцца ўкраінскі Майдан. Першыя ж высновы зрабіць можна. У тым ліку і беларусам. Праўдападобна, што лідары ўкраінскай апазіцыі сталіся зусім не гатовыя да радыкальных зменаў і ідуць, так бы мовіць, у фарватару народных дзеянняў. Украіна пасля трагічнай гібелі лідару "Руху" Вячаслава Чарнавіла доўгія гады мае праблему сапраўднага агульнанацыянальнага лідара. З сённяшніх прэтэндэнтаў на месца новага прэзідэнта Украіны – ні "заходнік" Алег Цягнібок, ні цэнтрыст-спартовец Віталь Клічко, ні знешне інтэлігентны, але з элементамі фанабэрыі, Арсень Яцанюк на агульнанацыянальнага лідара пакуль не выглядаюць. Зрэшты зараз прыйшоў той самы час, калі ўсе маюць шанец сябе выявіць. Не забывайма і пра зняволеную Юлію Цімашэнку, калі яна выйдзе з турмы, то яшчэ можа сказаць сваё важкае слова ў гісторыі.

У Беларусі ж да пазітыўных зменаў хіба яшчэ далёка. Але Ангела Меркель думае пра ўсіх нас. Так што можна спаць спакойна…

***Уладзімір Хільмановіч***

# Падзенне каменнага ідала

***Прайшло больш тысячы гадоў з тае пары, калі князь Уладзімір Свяціслававіч прыняў хрысціянства як дзяржаўную рэлігію і адбылося масавае хрышчэнне кіеўлян. І паляцелі з сваіх пастаментаў каменныя балваны, сімвалізуючы вялікую змену эпохі. Хто тады мог падумаць, што праз тысячу гадоў каменныя балваны зноў будуць стаяць на хрысціянскіх землях, смела і нахабна паглядаючы зверху ўніз на мітуслівых нашчадкаў тых людзей, якія масава хрысціліся, абліваючыся хуткімі водамі магутнага Дняпра. І прымалі тыя духоўныя каштоўнасці, якія ўжо была прыняла амаль ўся старажытная Еўропа.***

Бальшавікі, руйнуючы храмы і еўрапейскую культуру, заставілі сваімі каменнымі балванамі шостую частку зямной сушы. З каменных Ленінаў, калі іх звесці ў адно месца, атрымаўся б даволі вялікі горад. Але Леніны не хацелі стаяць у адным месцы. Яны распаўзліся па ўсіх гарадах, занятых камуністамі, каб сімвалізаваць адмову прыгнечаных імі народаў ад еўрапейскіх каштоўнасцяў і цывілізаванага шляху. Яны стаялі на галоўных плошчах, то ўпэўнена паказваючы рукой ў нікуды то пільна сачылі за сваімі прыгоннымі.

І вось нарэшце, у Кіеве, пад час правядзення Еўрамайдана, адзін з такіх балваноў быў скінуты з сваіх крывавых падмуркаў. Ён ганебна паляцеў мармуровай галавой уніз і быў знішчаны, за людскія слёзы, за кроў і пакуты, за Галадамор, за крывавую разню і азвярэлае разбурэнне храмаў, за паламаныя лёсы і знішчаныя мары, за стогадовую адарванасць Украіны ад Еўропы… Ён разбіўся, сімвалізуючы чарговую вялікую змену эпохі, якая вызначаецца жаданнем украінцаў вярнуцца ў сям'ю еўрапейскіх народаў.

Аказваецца, гэты помнік даўно ўжо прапаноўвалі прыбраць з людскіх вачэй. І нават нейкія адпаведныя рашэнні былі прынятыя. Але духоўныя нашчадкі крывавых катаў зрабілі ўсё, каб выява іх важака засталася. Не хочуць яны па добраму, па чэснаму, па закону. Пляваць ім на закон, на чэснасць і дабрыню. Ну дык кіеўскі Ленін быў скінуты адзіным аргументам, які яны разумеюць. Сілай.

Але ж адразу, па факту знішчэння помніка Леніну была ўзбуджаная крымінальная справа. Вось што хвалюе ўладу! Не пабітыя азвярэлымі беркутаўцамі студэнты, а ка-



менны балван, сімвал іх улады і ўсёдазволенасці. Вось іх сапраўднае аблічча, якое зараз стала на аднаго Леніна меншым.

Духоўны нашчадкі камуністычных дзеячоў надаюць надзвычай вялікую ўвагу свайму сімвалізму. Не здарма яны ўсімі сіламі стараюцца захаваць музыку камуністычных гімнаў, як ў Расіі і Беларусі, пакідаюць камуністычныя зоркі на вопратцы вайскоўцаў, чапляюцца за кожны помнік Леніну… Калісьці і ў Гародні, на прапанову грамадзянаў прыбраць Леніна з галоўнай плошчы гораду, разгарнулі цэлую дыскусію. І накінуўшы на твары маску сур'ёзнасці і заклапочанасці даказвалі, што без выявы камуністычнага важака сапсуецца ўвесь архітэктурны ансамбль цэнтру гораду. І яшчэ сцвярджалі, што гэта ж наша гісторыя! Пры гэтым у горадзе няма ні помніку, прыкладам, Кастусю Каліноўскаму, ні Максіму Багдановічу. Нібыта гэтыя дзеячы не наша гісторыя. А ў нас адна толькі гісторыя, Ленін.

Ну вось хоць украінцы даходліва паказалі, што сапраўдная гісторыя, гэта дэмантаж Леніна, а не яго ўслаўленне. Што ў іх была і ёсць гісторыя змагання за праўду, а не толькі гісторыя задушэння праўды. І што прыйдзе час, калі паскідаюць усіх Ленінаў. І нават вынясуць з маскоўскага маўзалея ды пахаваюць як чалавека, адчыніўшы і для Расіі шлях у Еўропу.

Ну а пакуль што Расія, з сваім Леніным, не тое што сама ісці, але нават Украіну не хоча ў Еўропу пускаць. І пільна сочыць за кожным уздыхам Майдану. І трасецца, калі падае помнік Леніну. І цешыцца, калі чуе, што многія апазіцыйныя ўкраінскія лідэры асуджаюць знос крывавага сімвалу антыўкраінскай улады. Бо разумее з гэтага факту, што не ўсе тыя лідэры гатовыя ісці да канца. І абавязкова ўлічыць гэта, калі будзе рыхтаваць для Януковіча план разгону Майдана.

Але як бы там далей ні разгортваліся падзеі, усяму свету ўжо зразумела, што украінцы выбіраюць Еўропу. І што рана ці позна, яны там будуць. Лепш, канешне, рана.

*Віктар Сазонаў*

# Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на студзень 2013 году

**1 студзеня**
*110 гадоў таму (1904) – У маёнтку Крыкалы (Пастаўскі р-н) нарадзіўся Мечыслаў Багаткевіч, каталіцкі рэлігійны дзеяч. Расстраляны гестапаўцамі, пазьней беатыфікаваны. Вучыўся ў Наваградзкай духоўнай семінарыі.*

**4 студзеня**
*285 гадоў таму (1729) – У маёнтку Ясянец (Баранавіцкі р-н) нарадзіўся Яўхім Храптовіч, грамадзка-палітычны, дзяржаўны дзеяч ВКЛ, магнат, публіцыст, паэт, перакладнік. Меў сядзібу ў Шчорсах.*



**6 студзеня**
*100 гадоў таму (1914) – У Віцебску нарадзіўся Тодар Лебяда (сапр. Шырокаў, пам. у пач. 1970 у Разанскай вобл., пахаваны ў пасёлку Воршава Пуцяцінскага р-ну, Расея), беларускі літаратар, дысідэнт, вязень ГУЛАГу. У 1960-61 жыў і працаваў у Слоніме.*

**7 студзеня**
*Каляды (Раство Хрыстова) па юльянскім праваслаўным календары.*

**8 студзеня**
*120 гадоў таму (1894) – У г. Здунска Воля (Польшча) нарадзіўся Максіміліян Кольбэ, рымска-каталіцкі дзеяч, Сьвяты каталіцкай царквы. У 1922-27 служыў у Гарадзенскім кляштары францішканцаў.*

**10 студзеня**
*10 гадоў таму (2004) – У Паўладары (Казахстан) памёр Алесь Усюкевіч (нар. у лютым 1925 у в. Хадасы, Наваградзкі р-н), беларускі настаўнік, адзін з кіраўнікоў Саюзу Вызваленьня Беларусі ў Наваградку, вязень савецкіх турмаў.*

**11 студзеня**
*150 гадоў таму (1864) – У Вільні расстраляны Цітус Далеўскі, адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1863-64. Нараджэнец фальв. Кункулка (Лідзкі пав.).*

**12 студзеня**
*10 гадоў таму (2004) – У Лідзе памёр Аляксей Логвін, адзін з стваральнікаў моладзевай падпольнай антысталінскай арганізацыі, вязень ГУЛАГу. Нараджэнец в. Збляны (Лідзкі р-н).*

**14 студзеня**
*120 гадоў таму (1894) – У мяст. Трабы (Івейскі р-н) нарадзіўся Пётр Юргялевіч, беларускі мовазнавец, педагог, вязень савецкіх канцлягероў.*

**16 студзеня**
*95 гадоў таму (1919) – У Гародні арганізаваны беларускі клюб "Наша хатка".*

**18 студзеня**
*130 гадоў таму (1884) – У в. Каранды (Смургонскі р-н) нарадзіўся Адам Лісоўскі, беларускі рэлігійны дзеяч, каталіцкі сьвятар.*

**19 студзеня**
*70 гадоў таму (1944) – Каля Беластоку польскімі падпольнікамі жорстка закатаваны Мікола Чарнецкі, беларускі публіцыст, педагог, грамадзкі дзеяч. Нараджэнец в. Малыя Азяранкі (Ваўкавыскі р-н).*

**23 студзеня**
*125 гадоў таму (1889) – У Чылі памёр Ігнат Дамэйка, удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху, філамат, геолаг, мінеролаг, нацыянальны герой Чылі. Нараджэнец маёнтку Мядзьведка (Карэліцкі р-н). З 1884 па 1888 жыў у майнтку Жыбартоўшчына (Дзятлаўскі р-н).*

**24 студзеня**
*110 гадоў таму (1904) – У в. Шутавічы (Смургонскі р-н) нарадзіўся Янка Шутовіч, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, выдавец, літаратуразнавец, вязень савецкіх канцлягероў.*
*115 гадоў таму (1909) – У в. Зачэпічы (Дзятлаўскі р-н) нарадзіўся Пятрусь Граніт (сапр. Іван Івашэвіч), беларускі паэт, педагог. Вучыўся ў Бяліцы (Лідзкі р-н).*

**25 студзеня**
*210 гадоў таму (1804) – У в. Гяйстуны (Ашмянскі р-н) нарадзіўся Антон Адынец, паэт, філамат, перакладнік, выдавец.*
*70 гадоў таму (1944) – У Слоніме памёр Антон Карніцкі, беларускі мастак. Пахаваны ў Слоніме.*

**29 студзеня**
*130 гадоў таму (1884) – У Шаўлях (цяпер Летува) нарадзіўся Антон Луцкевіч (ці 30-га студз.), беларускі грамадзка-палітычны дзеяч, гісторык, публіцыст, старшыня ўраду БНР. Пэўны час жыў у Гародні, калі там працавала рада БНР.*

*Кожны аўторак у эфіры незалежнай радыёстанцыі "Радыё Рацыя" - праграма "Людзьмі звацца!", якая асвятляе падзеі, датычныя правоў чалавека на Беларусі. Час выхаду ў эфір – 15-05 (паўтор - серада 0:05-1:00 і субота 7:05-8:05). Таксама ў гэты час яе можна слухаць праз інтэрнэт на сайце*

**www.racyja.com**

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па ўсёй Беларусі вы можаце атрымаць на сайце*

**www. spring96.org**




*На сайце*

**www.palitviazni.info**

*вы таксама можаце атрымаць інфармацыю пра палітычных зняволеных у Беларусі*

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па Гарадзеншчыне вы можаце атрымаць на сайце*

**www.harodniaspring.org**



*Праваабарончая інфармацыя з іншых рэгіёнаў Беларусі:*

**Берасце - www.brestspring.org**
**Віцебск - www.vitebskspring.org**
**Гомель - www.gomelspring.org**
**Магілёў - www.mahilyowspring.org**

Гарадзенскі праваабарончы
інфармацыйна-аналітычны
бюлетэнь «Прэзумпцыя»
выходзіць 1 раз у месяц
наклад 299 асобнікаў
для нутранога карыстаньня

падрыхтаваны да друку:
снежань 2013
e-mail:prezumpcyja@gmail.com
распаўсюджваецца задарма
пры перадруку спасылка
абавязковая

